Што ішлі з ім тут, локаць да локця,
Скрозь крывавае пекла вайны.

І калі трактарыст аж да хрусту
Мне пацісвуў далонь — зразумеў:
Ён за коней стальных беларускіх
Шчыры дзякуй сказаў, як умеў.

І калі ў перапоўненай зале
Прывіталі мой просценькі верш —
Ведаў я: адтаго, што гучалі
Тут Купала і Колас найперш...

Так уцяміў я з першай паездкі
У краіну сяброў і братоў:
Калі маеш ты званне «савецкі» —
Будзь да стрэчы з любоўю гатоў.

А любоў — гэта лёс, не дарунак:
Зразумей, не прынізь, не растраць
І на свой асабісты рахунак
Не спяшайся наіўна прыняць.

Ёсць вялікі рахунак адзіны,
Ён і твой асабісты, лічы:
Веліч, гонар і слава Радзімы.
Што прыдбаў — да яго далучы!

kamunikat.org

## КУКЕРЫХ *

Гамоніць пляц, пяе і грае,
Ды адчуваецца па ўсім,
Што кожны нечага чакае,
І ўсе жывуць чаканнем тым.

Апафеозам святкавання
Павінен стацца нейкі цуд,
Дзеля якога ўсе да звання —
Стары, малы — сышліся тут.

«Ідуць! Ідуць!» — прыбегла з крыкам
Чародка шустрых хлапчукоў,
І я пачуў якісь нязвыклы,
Трывожна-дзіўны гром званкоў.

Якісь бясконца старажытны,
Ён завалодаў зразу мной.
Зірнуў — жахлівыя страшыдлы
Да плошчы сунуцца гурмой.

У яркіх пер'ях і з рагамі,
У доўгіх пасмах валасоў,
І ўсе абчэплены званкамі —
На трыста розных галасоў.

* К у к е р ы — старажытны язычніцкі абрад з пераапрананнем.

kamunikat.org

А вочы ў кожнага — па сподку,
А пашча-зяпа — бы ў ільва...
Ідуць па вуліцы з падскокам —
Набок, усякая гульба!

Гляджу на ўбор, на морды-твары
І вокліч просіцца з грудзей:
— Грыміце, мілыя пачвары!
Скачыце, д'яблы, весялей!

Я вашых мордаў не баюся,
Хоць і пачварныя яны.
Стаю і радасна смяюся
Бяссмерцю мудрай даўніны.

Баюся іншых мордаў-масак,
Салодка-ветлых на пагляд,
Што за пачціваю грымасай
У вострым джале тояць яд.

А вашы — што! Адна забава!
Бязвінны даўні рытуал,
Якім калісь ад зла, бывала,
Сябе наш продак ратаваў...

Скачыце ж, кукеры, скачыце,
Ганіце ўсіх злых духаў прэч!
Павек хай будзе добрай, чыстай
І светлай радасць брацкіх стрэч!

kamunikat.org

## ВЕРШ З КАРОТКАГА АДПАЧЫНКУ Ў РАДОПСКАЙ ВЁСЦЫ

Ты не ўлягаўся на радопскіх «халіштах»*
Або на «козяках»**— з казінай шэрсці?
Не? Дык якою коўдраю ты хвалішся?
З нейлона, можа? Мне шкада вашэці.

Дарма іронію стаіў ты ў позірку:
Са мной тады пагодзішся таропка,
Як, расцягнуўшыся на мяккім «козяку»,
Нацягнеш «халішта» да падбародка.

Яны ўвабралі фарбы ўсе і колеры
Зямлі, пярэстай на зыходзе лета:
Ад чорных стром і яркіх вязаў полымя
Да пабурэла-жоўтых ніў-палеткаў.

Ад іх струменіць несмяротным водарам
Дымкоў пастушых, спелых траў і лісця.
І ты сваяцтва кроўнае з прыродаю
Адчуеш так, як прадзед твой калісьці.

І мудраму спакою заўсміхаешся,
І мітусні ўсаромішся нікчэмнай…
Ты не ўлягаўся на радопскіх «халіштах»?
Жаночай ласкі іх не чуў таемнай?

* Х а л і ш т э — дамотканая тоўстая коўдра.
** К о з я к — тоўстая падсцілка або коўдра з казінай шэрсці.

## ЖЫЎКАВЫ ПЕСНІ

Ах, Сандански, Сандански!
У памяці раптам ажыўшы,
Ён мелодыяй дзіўнай
Трывожыць,
Хвалюе,
Заве.
Зноў мне чуецца голас
Вясёлага дужага Жыўкі,
Закаханага ў родныя горы
І песні —
Навек.

Колькі ён праспяваў іх
За столікам нашым
Прыціхлым!
А віна ён не піў.
Толькі так, для прыліку,
Глыток.
Папытаўся, адкуль я,
Ці добра мне ў горадзе іхнім,
І прызнаўся:
«Хацеў бы пабачыць я
Край твой, браток...»

Я й тады
Не лічыў бы, сябры,
Што візіт мой не ўдаўся,

kamunikat.org

Каб у сэрцы сваім
Толькі гэтыя песні прывёз.
Шчыра дзякую, Жыўка!
Шчыра дзякую, горад Сандански!
Шчыры дзякуй, Балгарыя!
Хай будзе светлы твой лёс!

5 Зак. 1646

kamunikat.org

# СЛАВЕНСКІЯ ДЗІВОСЫ

## ПРЫГОДЫ Ў ПАДНЯБЕССІ

Плыву пад небам, у гарах,
На зручным крэселцы жалезным,
І каб падкрэсліць, што не страх —
Нагамі боўтаю гарэзна.

Далёка ўнізе — схілы гор,
Лясы і вёсачкі ў далінах,
Істужкі рэк, віткі дарог,
Лугоў зялёныя кілімы.

Праз хмарку божую плыву —
Чарпнуў, на твар лінуў прыгаршчы
І адчуваю наяву,
Што за анёла стаў не горшы.

А да вяршыні, да канца —
Яшчэ напэўна вёрст паўсотні.
Цяпер пад чарачку вінца
Перакусіў бы я ахвотна!

І ледзь паспеў падумаць так,
Як тут жа бачу: наўздагонку
Ляціць бацян — цыбаты птах
І штосьці трымае ў дзюбе тонкай.

Шпурнуў на рукі мне кулёк
І ззаду сеў на крэсла спінку:

Маўляў, прыміце, клё-клё-клёк,
Ад Ціне Логара пасылку!..

А з долу — песня даплыла:
Там свята ладзяць на палянцы
І так пяюць — што галава
Хмялее, кружыцца, бы ў танцы!

І не заўважыў сам, калі
Адкінуў планку ненарокам:
Няпэўны рух — і да зямлі
Лячу, як камень, з-пад аблокаў.

«Ну, вось і ўсё… Ах, як шкада!
І крыўдна як! Не сніў, не думаў,
Што стрэне тут мяне бяда,
Што ў гэтым краі смерць знайду я!..»

Ды што такое? З лёту — бац! —
І ўгору мячыкам падскочыў.
Нібы спружынавы матрац
Падкінуў дол мяне мо тройчы.

Як перавёў нарэшце дух —
Кручу наўкола галавою:
Нібы альпійскі горны луг —
Кілім квяцісты пада мною!

І той кілім — за кожны рог
У дзве рукі — трымаюць гожа
Не хітрых д'яблаў чатырох,
А Янез, Франц, Мацяж і Ёжэ!

Крычу: — Браты мае, сябры!
Я да труны вам буду ўдзячны!
Адкуль, аднак, вы знаць маглі,
Што я на гэтым месцы чмякну?

І кажуць мне сябры-браты:
— Мы знаем чары нашых песень:
Пачуўшы іх, не зможаш ты
Праплыць спакойна паднябессем.

kamunikat.org

## ПАДЗЕМНАЕ ЦАРСТВА Ў ПАСТОЙНЕ

Пачну з таго, што ў падзямелле
Папаў электрацягнікам.
А там, з уражання знямелы,
Хадзіў да вечара пяшком.

Глядзеў на цуды зноў і зноўку
У сховах царскага двара.
Нарэшце трапіў у кладоўку,
Дзе процьма ўсякага дабра.

На сценах жэмчугу гірлянды,
Бурштыну россыпы наўкол,
Алмазаў крушні і брыльянтаў,
У самацветах столь і дол.

Але мяне з усёй фактуры
Найбольш уразіла адно:
Нібы наплывы срэбра,— скуры
Звяроў, што вымерлі даўно.

Якраз у гэтай зале грота
Сядзіць і сам падземны цар —
Абліты ўвесь халодным потам
Дзівосных скарбаў валадар.

Я не чакаў ніякай ласкі,
А ён спыніў, спытаў — адкуль,

І кажа: — Дар вазьмі мой царскі —
Сем тысяч мамантавых скур!

Тут я ўжо пот адчуў халодны:
— Такі тавар?.. Нашто мне браць?
— Наладзіш выраб туфляў модных
Мільёны будзеш заграбаць!

— Ах, цар, ды я ж не прамысловец
І гандлю скурай не вяду.
Маё багацце ўсё — у слове,
Што адшукаў і што знайду.

— А з чым жа вернешся дадому?
— Ды, можа, з вершыкам якім...
— Не прызнавайся хоць нікому,
Што дарам згрэбаваў маім.

Дару яго ў тысячагоддзе
Аднойчы толькі, толькі раз —
І ты не ўзяў... Дзівак, дый годзе.
Ці там усе такія ў вас?..

І ён замоўк, замёр, як камень,
Каб цераз тысячу гадоў
Якомусь госцю нечакана
Прапанаваць свой дар ізноў.

Kamunikat.org

## ВОСЬ ТАБЕ І «ДАЙ-ДАЙ»!

У ціхай вёсачцы Грахова
Былі мы з сябрам у гасцях.
Напітку з ягад ядлаўцовых
Яшчэ і сёння чую пах.

Але не ў гэтым рэч, вядома.
Калі мы ўсталі з-за стала —
Агледзець, як і што ў іх дома,
Нас гаспадыня павяла.

У бакавушцы светлай, чыстай
Малы стаіць у стаяку.
Хадзіць яшчэ не навучыўся —
Паўгода з гакам хлапчуку.

Дастаў гасцінца я з кішэні
І падышоў да хлапчука:
— Скажы дай-дай! Дай-дай — умееш?
Гэ, ты яшчэ без языка?

І тут збянтэжыўся я раптам:
Малы глядзіць мне проста ў твар
З такой насмешкай і пагардай,
Як быццам з трона мудры цар!

— Ты што глядзіш так? Кінь сваволіць! —
Ківаю пальцам на яго.

Kamunikat.org

— Хоць і кульнуў пітва «казолец»*
Я помню, што і да чаго!

А ён і кажа — складна, смела:
— Мяне ты, дзядзька, рассмяшыў:
«Казолец» — рэч для сушкі сена,
А ты «казарац»** асушыў!

Яшчэ смяшней, калі ты просіш,
Каб я сказаў табе «дай-дай»:
Напэўна, ты забыўся проста,
Куды, ў які прыехаў край.

У нас ад першых дзён маленства,
Яшчэ не ўмеючы хадзіць,
Так рэжуць дзеці па-славенску —
Аж рэха-водгалас ляціць!..

Я слухаў водпаведзь, знямеўшы,
Сваім не верачы вушам,
І ўжо не цяміў, хто з нас меншы,
І звар'яцець баяўся там.

Каб так сячы на роднай мове —
У паўзунках, у стаяку! —
Такіх дзівос яшчэ, па-мойму,
Ніхто не бачыў на вяку.

* Казолец — азярод.
** Казарац — шклянка.

kamunikat.org

## ВАДАСПАД САВІЦА

Палюбавацца вадаспадам
Славенскі брат мяне павёз.
Гул-гром, страшней ад кананады,
Пачулі мы за трыццаць вёрст.

Машыну кінуўшы ў даліне,
Ішлі ўгару за крокам крок,
Пакуль не ўбачылі: з вяршыні
Ляціць раз'юшаны паток!

Ляціць — бы скалы знесці хоча!
А ўнізе ў бездані-трубе —
Віруе, пеніцца, клакоча,
Мільярдам пырск у неба б'е.

І тыя срэбраныя пырскі,
Як аб радзіме напамін,
Ляцяць адсюль за свет няблізкі —
Адразу ў некалькі краін:

Ляцяць у Рэзію* далёка
І у Карынцыю** наўпрост…

* Рэзія — геаграфічная вобласць у Італіі са славенскім насельніцтвам.

** Карынцыя — правінцыя на поўдні Аўстрыі са славенскім насельніцтвам.

kamunikat.org

А што за волат над патокам
На строме стаў на поўны рост?

Гляджу скрозь пырскі на славенца,
Аж гэта сябар Янез Зор —
Стаіць, халера, і смяецца:
— Ну, як аздоба нашых гор?

kamunikat.org

## НАЧЛЕГ НА ТРЫГЛАВЕ *

На ўсёй планеце нашай круглай
Вяршынь высозных вельмі шмат:
Кіліманджара, Джамалунгма,
Эльбрус, Мак-Кінлі, Арарат.

Але спыталі б вы славенца —
І ён вам голаў бы паклаў,
Што ад усіх вяршынь на свеце
Вышэй іх казачны Трыглаў.

Славенец вам хлусіць не будзе —
І не спрачайцеся са мной:
Не той народ, не тыя людзі,
Каб вусны брудзілі маной.

Дык вось на кончыку Трыглава,
Дзе не сыходзіць вечны снег,
У кочы**, зробленай на славу,
Аднойчы выпаў мне начлег.

Я спаў салодкім сном бязгрэшным,
Бы ў мамы некалі даўно.
А на світанні пылам снежным
Шпурнуў мне вецер у акно.

* Трыглаў — вяршыня ў славенскіх Альпах.
** Коча — хата.

Я прахапіўся і спрасонку
Прынік да шыбы галавой:
Нібы з прадоння — раптам сонца
Над беллю ўстала снегавой.

Яно палала блізка-блізка,
Сляпіла зыркасцю мяне.
Я адвярнуўся і здзівіўся:
Насупраць, у другім акне —

Такое ж сонца палымнела,
Скакала ў вогнішчы зары!
Зірнуў направа і налева —
І там па сонечным шары!

Як ашаломлены, глядзеў я
На ўсе бакі, у вокны ўсе
І думаў: мага-чарадзея
Убачу ў вогненнай красе.

Але ў дзвярах заместа мага
З'явіўся кочы гаспадар
І мне сказаў з такой павагай,
Што даражэй за ўсякі дар:

— Калі ты ўбачыў гэта дзіва —
Па сонцу ў кожным у акне,—
То, пэўна, маці нарадзіла
Цябе ў гасціннай старане.

То ўзгадавала цябе, мусіць,
Такая ж добрая зямля.
Дык перадай жа Беларусі
Вітанне братняе здаля!

kamunikat.org

# НА ЖАЛЬ, НЕ АБЫ-ДЗЕ, А Ў НАШАЙ ГРАМАДЗЕ

## «АМАТАР» ПРЫРОДЫ

У грамадзе наўкруг стала —
Пры чарчыне з нагоды —
Размова, помню я, зайшла
Аб характве прыроды.

З азартам кожны слова браў,
Каб не адстаць ад іншых,
Але найболей горла драў
Дзябёлы дзядзька ўвішны.



Kamunikat.org

Крычаў: «Прырода нам дае
Дары і насалоду!»
Крычаў: «Душа мая пяе,
Як вырвуся ў прыроду!..»

Я слухаў дзядзьку і глядзеў
Амаль не ў захапленні:
«Каб нам ды больш такіх людзей —
Свядомых і сумленных!»

Аж на душы мне стала лепш,
І я ў настроі светлым
Назаўтра ж выбраўся у лес —
Надыхацца паветрам.

Іду паўз лагер у цішы
І цераз той пагорак,
Дзе ў час канікул малышы
Частуюць з рук вавёрак.

І раптам чую побач: бах! —
Аж гул пайшоў ад стрэла.
І бачу: долу па суках
Ляціць вавёрка з дрэва.

А воддаль бліскае ствалом
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

— Ты — грэшнік, грэшнік ты! — кажу.
А ён — за дубальтоўку:
— Матай — бо зараз асвяжу,
Як гэтую вавёрку!..

Праз дзень я ў вёсачку адну
Шкандыбаў па дарозе.



Kamunikat.org

На ўзлеску, думаў, адпачну —
Пры векавой бярозе.

Бяроза там — сама краса:
Царыца над узлессем!
І ўся ў птушыных галасах,
У пераззвонах песень!

Іду, гляджу — а дзе ж яна,
Бяроза векавая?
Ляжыць на доле, як струна —
Без песень, нежывая.

А побач ходзіць з тапаром
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

Ужо й сукі абцерабіў
І верх адсек начыста...
Крычу: — Дзікун! Ты што зрабіў?
Ты ж учыніў злачынства!

А ён: — Я сведак не люблю,
Як вырвуся ў прыроду.
Матай! А то — абцераблю,
Як гэтую калоду!..

Пазней, праз месяц праз які,
Узброіўшыся вудай,
Ішоў я нейк уздоўж ракі —
З нажывай і з пасудай.

Гляджу: машына ля вады,
А ў кузаве — дынама
І ад дынама — правады
У вір збягаюць прама.

kamunikat.org

І б'юць жывое ў тым віры —
Без промаху, без хібы!
І кружаць, брушкам дагары,
У мёртвым танцы рыбы.

А падбірае іх сачком
Той самы дзядзька ўвішны,
Што аб прыродзе за сталом
Крычаў грамчэй за іншых.

— Ты варвар, варвар! — я сказаў.
А дзядзька лыпнуў вокам:
— Матай! А то — як ментуза
Цябе прашыю токам!..

Вось так, шаноўныя мае:
Калі хто громка трубіць
І кулакамі ў грудзі б'е,
Што ён прыроду любіць,—

Не млейце ў радасці ад слоў,
Папрабуйце праверыць:
Ці не крычыць у ім любоў
Глушыць, страляць, сякерыць?

kamunikat.org

**КУЗЬМА**

Гісторыя звычайная,
ды вельмі павучальная

А быў Кузьма дзяцюк, што дуб —
Высокі, дужы, зграбны,
Як шула — плечы, хмарай — чуб
І бас, як звон, прывабны.

А вось не выпала Кузьму
Заслужанага шчасця:
Гарчэй зрабілася яму
За горкі яблык Насця.

Як уступалі ў шлюб яны,
Дык думаў: «Божа мілы!
Кахання хопіць да труны
І ласкі да магілы!»

Аж не прайшло і трох гадоў —
Не стала згоды ў пары:
Як водар з квецені садоў,
Развеяліся чары.

«Што з Насцяй сталася маёй?
Зусім не тая Насця:
І ўсмешка знікла, прад якой
Свет расчыняўся насцеж,

І той паходкі ўжо няма,
І ў таліі, як ступа...»
І замаркоціўся Кузьма:
З эмоцыямі скупа!

Любоўны чад прайшоў, як сон,
Усё будзённым стала.
І вось аднойчы гыркнуў ён,
Пасля — яе прарвала.

А тут прыбытак, бач, займеў —
Сушы, Кузьма, пялёнкі!
Якраз тады, як зразумеў,
Што больш не любіць жонкі.

А на праспекце — божа мой! —
Пад вечар асабліва —
Дзяўчаты сноўдаюць гурмой,
Стрыгуць вачмі гулліва.

І ў кожнай станік трапяткі
Аж просіцца з сукенкі,
І ў кожнай, быццам качанкі,
Круглявяцца каленкі.

Такія спрытненькія ўсе —
Нібы казулі ў лесе.
Зірнеш — аж трасца затрасе
І чорт у рабро лезе.

І азарыла тут Кузьму
Шчаслівая здагадка:
«От калі гэткую вазьму —
Усё ў нас пойдзе гладка!

Яна ж і к сэрцу прыхіне,
І зразумее тонка,



Kamunikat.org

І будзе ў доме у мяне
Анёлак, а не жонка!»

Зрабіўшы вывад, чорт вазьмі,
Ён выцадзіў паўлітра
І беднай Насці пад вачмі
Размаляваў няхітра.

Ну, а грамадскасць тут як тут —
І майстар маляўніцтва
На таварыскі трапіў суд
У домакіраўніцтва.

Сабраўся гурт бабуль сівых —
Усім ім Насці шкода,
І прафсаюзны стаж ва ўсіх
З трынаццатага года.

А для фасону — прывялі
І пасадзілі ў цэнтры
Спецыяліста па сям'і,
Вучонага дацэнта.

І сталі суддзі па чарзе
Пытаць Кузьму ды Насцю,
Што сэрцы іхнія грызе,
Што замінае шчасцю.

Кузьма не каяўся ані.
Як чалавек з дыпломам,
На суддзяў глянуў з вышыні
І заявіў з апломбам:

«Дык вось што думаю сам я,
Шаноўныя прамоўцы:
Якая можа быць сям'я,
Калі няма эмоцый?

Kamunikat.org

А сына — што ж, магу забраць
Бацькі не забядуюць:
Мяне сумелі ўзгадаваць
І ўнука падгадуюць».

Тут Насця ўстала у слязах,
Сказала: «Божа моцны!
Калі іх мала — дзе ж узяць,
Адкуль мне ўзяць эмоцый?

Пакуль з работы прыбяжыш,
Пакуль дзіця дагледзіш
Ды ў магазіне пастаіш —
Да ложка дойдзеш ледзьве...»

І Насця зноў да мокрых шчок
Хусцінінку паднесла.
Тут гладкі, тоўсты, як пучок,
Дацэнт падняўся з крэсла.

«Калі да гэтай справы мы
Падыдзем прынцыпова,
Дык у канцэпцыі Кузьмы
Заганная аснова!

Што цэментуе ў нас сям'ю?
Адзінства спраў і мэты.
Я ж дысертацыю сваю
Абараніў на гэтым!

Калі ў эмоцыях няма
Ідэйнага аспекта...»
Суду насуперак, Кузьма
Анёлка ўзяў з праспекта.

Як першы раз аблабызаў,
Яму сказала жонка:

kamunikat.org

«Бяжы, Кузёмка, на базар,
Купі качан, Кузёмка!»

А як з базару ён прыбег —
Анёлак дорыць буську:
«Цяпер, Кузьма, вары абед,
Ды каб быў смачны, Кузька!»

Пасля: «Падай, Кузьма, на стол!»
Пасля: «Памый пасуду!
Жывей, Кузьма, жывей, сакол,
А то — любіць не буду!»

Памыў пасуду — самы б раз
На ложак заваліцца,
А тут: «Вазьмі, Кузёмка, прас —
Адгладзь маю спадніцу!

Цяпер падлогу пературы
Анучкаю з вадою,
Бо прыйдуць вечарам сябры —
Патанцаваць са мною...»

І так штодзень, і так штодзень:
«Жывей, жывей, мой Кузя!..»
Кузьма асунуўся, схудзеў,
Сцялося сэрца ў вузел.

Згарбеў і крукам выпер нос,
Запалі вочы ў ямы,
І брыдкім мохам твар аброс —
Кузьма ўжо не той самы!

Зусім абвяла ў жылах кроў!
Няма ранейшай моцы!
Затое ў жончыных сяброў —
Такі напал эмоцый!



kamunikat.org

Як стануць з ёю танцаваць
Ды міргаць ласым вокам —
Кузьму ну проста не стрываць:
Ад крыўды вые воўкам.

Не знаю, колькі выць Кузьму.
Адно тут вам скажу я,
Што Насця сніцца ўжо яму
Царэўнай-прыгажуняй.

kamunikat.org

**БЯССОННЕ**

Не раз, сабраўшыся на форум,
Вялі дыскусію ўрачы:
Чаму як быццам і не хворым
Не спіцца людзям уначы?

Прычын высоўвалася безліч:
На кожны выпадак — свая.
Але й памылак не пазбеглі
У спрэчках тых, скажу вам я.

Бяру, напрыклад, пад сумненне
Старую формулу адну:
Калі нячыстае сумленне —
Дык не чакай, маўляў, і сну.

Я не магу згадзіцца з гэтым.
Я сто разоў быў сведкам сам,
Як моцна спіцца прайдзісветам
І рознай масці махлярам.

Сёй-той, не ўкраўшы хоць драбніцу,
Не можа крок адзін ступіць,
А ляжа — нават і пшаніцу
Прадаўшы — так не ўсякі спіць!

Сёй-той зрабіўся бюракратам,
І хабар, ведаю, бярэ,

А спіць з такім нялюдскім храпам,
Нібы ўсю ноч сукно дзярэ!

Затое колькі іншых знаю —
Душою чыстых, як крышталь,
Што ад пакутаў знемагаюць.
Сон не ідзе да іх, на жаль.

Не спіцца хлопцу маладому —
Трасе ад здрады чорных воч.
Не спіцца ў вёсцы аграному:
На цвет мароз зваліўся ўноч.

Не спіць начальнік будаўніцтва —
Турботы ўзяў да галавы.
І вынаходніку не спіцца —
Ні на баку, ні дагары.

Паэт — дык той зусім не дрыхне:
За ноч і веек не звядзе,
Пакуль нарэшце сонца ў рыфме
На стол, як хлеб, не пакладзе.

Такім — пашану мы прыносім
І шчыра зычым: дай вам бог —
Гадзін хоць сем, калі не восем —
Штоночы спаць без задніх ног!

А тых, што ўсяк скрыўляюць сёння
Законы нашага жыцця —
Няхай іх мучае бяссонне,
Як «крыксы» мучаюць дзіця!

kamunikat.org

## УРОК СУЧАСНАГА ТАНЦА

Танец не вельмі складанай навукі:
Станьце й таўчыце нагамі памост,
Скурчыўшы — соўгайце перадам рукі,
Быццам бы фігі партнёру пад нос.

Твар пажадана зрабіць абалдзелы —
Цэніцца зараз уменне «балдзець».
Помніце: трэнінг выключна для цела!
Дух ні пры чым тут — хай стоіцца дзесь!

Танец асвоіла ўсё заграніčча:
Лондан і Вена, Н'ю-Йорк і Бамбей...
Чэравам, чэравам больш энергічна!
Сцёгнамі, сцёгнамі больш весялей!

Хай сабе круціць там польку ці вальса
З бабкай Грыпінаю дзед Панцялей.
Таліяй, таліяй болей віхляста!
Бёдрамі, бёдрамі больш весялей!

Што за няёмкасць? Куды гэта варта?
Кіньце прыстойнасць на сметнік скарэй!
Пупікам, пупікам болей азартна!
Копчыкам, копчыкам больш весялей!

Прэч сарамлівасць! І цноту — да д'ябла!
Секс распаляйце ў партнёра смялей!

Kamunikat.org

Персямі, персямі болей заядла!
Чрэсламі, чрэсламі больш весялей!..

Так і таўчыце, віхляйце, «балдзейце» —
Вельмі не блага засвоілі ўрок!..
Заўтра на танец хай прыйдуць і дзеці —
Трэба ж скіроўваць і ў будучынь зрок.

kamunikat.org

## ЗА ШТО СВАРЫЛАСЯ ЖОНКА

На мужа сварылася жонка —
З намёкам на нейкае зло,
Ды так далікатна і тонка,
Што нельга ўшалопіць было.

І з крыўдай нібы гаварыла,
І ў той жа час ласкава так:
«Барыла маё ты, барыла!
Бітон ты мой,
мілы мой гляк!

Што зношу з табою адна я,
Ніхто ж бы не сцерпеў другі,
Цыстэрна мая ты піўная,
Мой буталь ты, мой дарагі!

І сам ўжо стаў нездаровы,
І я не цвіту за табой,
Сіфон мой,
графін мой сталовы!
Фужэрчык мой, куфальчык мой!

Куды ж ты,
нібы апантаны,
У прорву нясешся наўскач?
Адумайся, мой аплятанік!
Апомніся, любы гарлач!..»

Kamunikat.org

Вось гэтак яна гаварыла,
На штосьць намякала ледзь-ледзь.
За што ж яго ўсё-ткі журыла —
Я так і не мог зразумець.

Kamunikat.org

## ЧЛЕН ЖУРЫ
## Ў КАБІНЕЦЕ Ў ШЭФА

Зайшоў да вас, раней чым бегчы
Дзяліць дыпломы на журы.
Адбіла памяць недарэчы:
Свой густ не ўспомню, хоць памры!
Дык нагадайце, калі ласка,
Каго цаню я і люблю,
А то на сэрцы будзе цяжка,
Калі памылачку зраблю…

Kamunikat.org

## ГРАМАФОН

*(Паводле Х. Радзеўскага)*

Прыгожа грамафон спяваў на дзіва:
За песняй песню падаваў імкліва,
Ды і прамовы гаварыў цудоўна —
Разумна, палымяна, красамоўна.
Аж вушы адтапырыла каструля
І нават накрыўку згубіла дзесь,
Разінуўшыся, слухала красуня
І ахала: «Які ён маладзец!
Натура даравітая якая!
І галасістая, і гаваркая!
А песні ведае са свету з усяго!»
Нарэшце запыталася ў яго:
— Ну, як ты дасягнуў такога ўмення
І мудра гаварыць, і песні пець,
Што проста млею я ад захаплення?
І праскрыпеў ёй грамафон ледзь-ледзь:
— Усё залежыць, чым я славен ёсць,
Ад тых пласцінак, што заводзіць хтось.



Kamunikat.org

**КАГО ВІНІЦЬ**

*(Паводле Х. Радзеўскага)*

Паклёпнікаў
Зусім я не віню.
Які ёсць сэнс, браткі,
Вініць свінню,
Што ходзіць
З брудам на лычы
Яна?
Такой, відаць,
Павінна быць
Свіння.
Аднак жа
Не магу я зняць віны
З таго,
Хто верыць
Гэтакай свінні.

Kamunikat.org

**І НАРЭШЦЕ**

*(Паводле А. Босева)*

За прамоваю прамова —
Сходку сон няйначай зморыць.
Паўтары гадзіны слова
Балбатун ужо гаворыць.

Як пачулі: «І нарэшце…» —
Уздыхнулі ўсе з палёгкай:
Значыць, сядзе ўжо на месца,
Значыць, фініш недалёка.

Толькі дзе ж канец той, дзе ён?
Не спыняецца аратар.
І глядзім мы ўсе з надзеяй:
Ну, напэўна ж, змоўкне раптам.

Не, зусім не збавіў тэмпу.
Зноўку чуем: «І нарэшце…»
І пагнаў другую тэму —
Хоць яго вы тут зарэжце!

«І нарэшце — аб маралі…»
Паўгадзіны зноў балбоча:
Вучыць, бэсціць, дакарае —
Як вада ліецца з бочкі.

«І нарэшце…» Божа мілы!
Хоць бы глотка ўжо аслабла!

І адкуль бяруцца сілы?
— Годзе! Прэч пайшоў да д'ябла!

«І нарэшце...», ды нарэшце
Сходка болей не стрывала:
Дзе ж цярпення набярэшся? —
Паваліла ў дзверы валам!

kamunikat.org

## **ЧАЛАВЕКАПАДОБНЫЯ ДУМКІ КАЛЯ КЛЕТКІ З МАЛПАМІ**

*(Паводле М. Ганчава)*

Што, мой хлопча —
Смяшыць цябе гэты гібон?
І дарослым забаўна глядзець,
Як цукерку
Ён вымае з абгорткі і кідае вон,
А у зяпу кладзе і з'ядае паперку.

Пэўна, думаеш:
Што ж, дзе карысць-інтарэс,
Ён, вядома, не кеміць, касмач-недарэка.
А па сутнасці з гэтага пачынаўся працэс
Ператварэння малпы ў чалавека.

Ёй нялёгка яшчэ
Сам каштоўны прадмет
Ад абгорткі адрозніць несамавітай.
Ну, а потым жа справу прыйдзецца мець
З абгорткамі болей складанага віду!

Яна з дзікага статку —
За шмат тысяч гадоў —
Пяройдзе ў больш развітае грамадства,
Дзе будзе загортвацца ў безліч слоў
Тое, што павінна адкрытым трымацца.

Ад усіх, што пачнуць навакол крычаць,
Ахаючы і охаючы замнога,

Яна будзе громкія словы хапаць,
Не шукаючы ў іх нічога.

І толькі нарэшце, у нейкі век,
Навучыцца, на зайздрасць няўмекам,
Адрозніваць, дзе словы, а дзе чалавек.
І гэта засведчыць,
Што стала яна чалавекам.

Kamunikat.org

## АДНАМУ ЗАЎЗЯТАМУ КРЫТЫКУ

О, мудры, зубы з'еў ты на паэтах!
(І зубы мудрасці сваёй таксама!),
Ва ўсіх прамовах — нават на банкетах
Не абыходзішся ты без кусання.

Ва ўсім і скрозь ты выяўляеш існасць
Памылак, вывіхаў, пралікаў густу...
Як не цаніць такую непахіснасць
У спалучэнні з дарам Златауста!

Цаню твой дар і яшчэ больш цаніў бы,
Калі б цябе так прынцыповасць трэсла
І ў дачыненні тых, што носяць німбы
Не чараў творчасці, а чараў крэсла.

kamunikat.org

# ВЯСЁЛАЕ ЛЮСТЭРКА

## паводле народных жартаў

### ТРЭБА ДЫК ТРЭБА

Зайшоў у хату поп у госці,
Усе вітаюцца з ім цёпла,
Адзін сямігадовы Косцік
Сядзіць і зіркае спадлоб'я.
Ну, бацьку гэта разгнявіла —
У хаце ж госць надзвычай рэдкі!
— Ідзі скажы айцу Кірылу
«Дзень добры», ёлупень ты гэткі!

Kamunikat.org

Малы сканфузіўся, аднак жа
Саскочыў спрытна з табурэткі,
Падаў руку папу і кажа:
— Дзень добры, ёлупень ты гэткі!

Kamunikat.org

**СУПАКОІЎ**

— Ты не звяртай увагі, сват,
Што стаў на вуха тугават.
У рэшце рэшт, Сцяпан Круты
Намнога больш глухі, чым ты.
— Што, што?
— Кажу: Сцяпан Круты
Намнога больш глухі, чым ты!
— Крычы мацней!
— Сцяпан Круты,
Кажу, той больш глухі, чым ты!
— Яшчэ мацней! Не ўчуў нічога!
— Кажу: глухі ты! Горш Крутога!

kamunikat.org

## ГАТОВА ПАМАГЧЫ

— Ты дзівішся, суседачка мая,
Чаго так раптам паблажэла я?
Дзве тысячы мне трэба да зарэзу —
І ні да кога ў доўг ніяк не ўлезу!
Тры ночы ўжо з-за гэтага не спала!
— Чаму ж ты мне нічога не сказала?
— А што — хіба ты можаш памагчы?
— Вядома! На цяжкі выпадак гэткі —
Ёсць вельмі моцныя ў мяне таблеткі:
Як вып'еш — дрыхнеш запар тры начы!

kamunikat.org

**БУДУЦЬ «СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ»**

— Я — ваш калега,
прыняты на службу да вас,
І працаваць буду
з вамі ў адным кабінеце.
— Вельмі прыемна! —
азваўся калега ў адказ.—
Я спадзяюся, шаноўны,
што вы не храпеце?



Kamunikat.org

**ДВОЕ РОЎНЫХ**

— У Афрыцы спаткаўся я з ільвом,
А стрэльбы не было, брат, пад рукой.
Гляджу: на зэдліку вядро з вадой,
Дык я схапіў і гэнаму ільву
Калі чабэхнуў, брат, на галаву —
Ён так папёр —
адно мільгнуў хвастом!
— А-а-а, вось цяпер усё я зразумеў!
І я ж па Афрыцы блукаў тады,
І мне наўрэўся гэны самы леў.
І я магу засведчыць: сапраўды,
Як я пагладзіў між вушэй ільва —
Дык яшчэ грыва мокрая была!



Kamunikat.org

## У ДОКТАРА

— Памажыце, доктар: нешта
З мужам сталася маім.
Захварэў, відаць, нядобра…
— Ну, а што ж такое з ім?

— Ды, бывае, тры гадзіны
Языком, я малачу,
А пасля — гляджу і бачу:
Ён ні слова не пачуў!

— І ўсяго? Тады не страшна.
Не памрэ ваш гаспадар.
Гэта, цётка, не хвароба!
Гэта, цётка, божы дар!

kamunikat.org

## НА ВУЛІЦЫ

— Паверыце, як толькі стрэну вас,
Дык і Рамана ўспомню кожны раз.
— Рамана? Дзіўна мне, чаму Рамана?
Мы не падобны між сабой нічуць!

— О, безумоўна, але ён таксама
Мне сто рублёў яшчэ не змог вярнуць.



Kamunikat.org

## ПЕРАСТАРАЎСЯ

З забінтаванай галавой
Ляжыць Пятро ў палаце.
Заходзіць сябра:
— Што з табой?
— Ой, не пытайся, браце!
Віталі шэфа мы гурмой,
І я ў паклон схіліўся,
А мой калега, бегемот,
На галаву мне ўзбіўся.

kamunikat.org

## ПРОСТЫ СПОСАБ

*(Размова сябровак)*

— Нарэшце ўчора я абстрыгла
Свайго сабачку нагала,
Бо ўжо адрозніваць абрыдла,
Дзе хвост яго, дзе галава.
— Дарма! Дарма! О, бедны пусік!
Пазнаць прасцей, як двойчы два:
Шчыпні за хвост — і калі ўкусіць,
Дык, значыць, гэта галава.

Kamunikat.org

## НАПАЛАВІНУ ПЕРАКАНАЛА

— Я так хачу веласіпед купіць!
Штодня даводжу мужу, як карысна
І як прыемна на паветры чыстым
Педалі хоць гадзіну пакруціць.
— І што? Згадзіўся з довадамі ён?
— Не да канца пакуль. Напалавіну:
Учора швейную маю машыну
Ён перанёс з пакоя на балкон...

Kamunikat.org

## ЗАСУМНЯВАЎСЯ

— Што з табою? — запыніўся
Сябра Саўка ля Міколы.—
У нядзелю ажаніўся,
А ўжо сёння невясёлы?

— Знаеш, стаў я сумнявацца,
Што не будзе мая Люба
Гаспадыняй гэткай хвацкай,
Як здавалася да шлюбу.

Мне аж блага ўчора стала —
Ледзьве-ледзь хапіла нерваў,
Як яна яйцо ўскрывала
Адкрывалкай для кансерваў…

kamunikat.org

## ЗА ГЭТА НЕ ПЕРАЖЫВАЙ

Жонка, зваленая грыпам у пасцель,
Просіць мужа: — Абяцай, што як памру…
Мужу слухаць просьбу гэткую няўсцерп:
— Перастань! Во для цябе таблетку тру!
Заўтра ўжо ты будзеш чуцца здаравей…
Але ўпарта паўтарае жонка зноў:
— Пакляніся: калі я пайду навек…
— Дарагая, кінь! Не трэба марных слоў!
— Не, ты выслухай наказ апошні мой:
Хай жанчына, што заменіць тут мяне,
Не адзене маёй транты ні адной,—
А ні плашч, ні паліто не апране!..
— Го! Па гэтым не баліць хай галава:
За цябе яна таўсцей разы у два!

## МУДРАЯ ПРАПАНОВА

Бяруць развод Рыгор з Аленай,
Ды падзяліць дзяцей праблема:
Бо трое ў іх было народзін,
А двое ўзяць ніхто не згодзен.
Нарэшце, ўспляснуўшы рукамі,
Алена кажа да Рыгора:
— Давай тады мы пачакаем,
Пакуль не стане іх чацвёра!

Kamunikat.org

## НЕ ВЫТРЫМАЛА

— Слухай, гэта праўда? Чуў я дзесьці
Жонка к матцы ад цябе ўцякла?
— Так, няўсцерп ужо ёй стала есці,
Што сама варыла і пякла.

Kamunikat.org

## СТРЫМАЎСЯ

— Прачнууся я сягоння ўночы,
Пачуўшы побач нейкі шум.
Гляджу, брат, вытрашчыўшы вочы:
Аж нехта лезе ў мой касцюм!

З усіх кішэнь трасе рублёўкі,
Апаражняе кашалёк.
Схапіў з крука я дубальтоўку
І... не націснуў на курок.

— Чаму? Няўжо ты, кум, наўмысна
Не спляжыў злодзея свінцом?
— Стрымаўся, брат...
Калі б націснуў —
Я быў бы сёння удаўцом!



Kamunikat.org

## НЕПАПРАЎНЫ ХАРАКТАР

З карабля, што пацярпеў крушэнне,
На бязлюдную якуюсь выспу
Чалавек,
зняможаны дашчэнту,
Цяжка дыхаючы, ледзьве выпаўз.
Жонка, выбраўшыся з хваляў мора
На крыху раней,
затармасіла:
— Дзе цябе нячыстая насіла?
Карабель утоп яшчэ заўчора!

kamunikat.org

## СУЧАСНЫ ТЭМП

Да дырэктара заскочыў
Хлопец-зух на перапынку:
— Я прашу вас вельмі: дайце
Дзён пятнаццаць адпачынку!
Справа ў тым, што я жанюся
І мая нявеста хоча —
Каб запомніць гэта свята —
Дзесяць дзён правесці ў Сочы.
— Ну, дык дзесяць! А навошта
Будуць пяць яшчэ глуміцца?
— Як навошта? Пяць мне трэба,
Каб знайсці, на кім жаніцца!

**СУЦЕШЫЛА**

Суседка суседцы нядолю кляне:
— Нутром усім чую і плачу:
Ён толькі таму ажаніўся на мне,
Што маю машыну і дачу.

— Дык ты супакойся і лёс не кляні,
Што ўзяў ён цябе дзеля выгад:
Прынамсі, не гэтакі ўжо ён дурны,
Як можна падумаць на выгляд.



Kamunikat.org

**ТЫТУЛ**

Пытае ў бацькі сын васьмігадовы:
— Што значыць выраз: тытул ганаровы?
— Ну, гэта вось, напрыклад, калі маці
Гаворыць мне: «Ты ж галава у хаце!»

kamunikat.org

## АДЧАГО ДЗЕЦІ ЗДАРОВЫЯ

Жанчына хваліцца сваёй знаёмай:
— А я, калі ўсчынаю сварку з мужам
З педагагічных меркаванняў
тут жа
Дзяцей за дзверы выпраўляю з дому.
— О, вашы дзеці добры выгляд маюць
Відаць, што часта на дварэ гуляюць.

Kamunikat.org

**ХАВАЙМАСЯ, ТАТА!**

Убачыў аднойчы ў кіно Ігарок,
Як фарбамі твары малююць індзейцы,
І ў бацькі спытаўся (цікаўныя дзеці!):
— Навошта яны сябе мажуць знарок?
А бацька ў адказ: — Гэта значыць, яны —
Да бітвы рухтуюцца, сын, да вайны.
Назаўтра ж уранку, падняўшыся шустра,
Малышык да бацькі ўляцеў у пакой:
— Хаваймася! Мама стаіць перад люстрам —
Рыхтуецца йсці на кагосьці вайной!



Kamunikat.org

## НА ЎРОКУ ПРЫРОДАЗНАЎСТВА

— Дзеці, вось вам і дзіва ў прыродзе.
Птушаняткі маленькія самі
Разбіваюць шкарлупкі насамі
І выходзяць на свет. Цуд, дый годзе!

— Не! — крутнуў галавою Алесік.—
Што выходзяць — тут дзіва малое.
Большым цудам здаецца мне тое,
Як яны пад шкарлупку залезлі?!

## ЗГОДНА І ЛЫЖАЧКАЙ

Мама — у гасцях з маленькай Лізачкай.
За сталом гаворыць ёй з дакорам:
— Торт у мёдзе трэба есці лыжачкай,
Пальчыкамі есці — стыд і сорам!

Аблізала пальцы паслухмяначка
І сказала — ганьбу каб адвесці:
— Пакладзі яшчэ кавалак, мамачка,
Я ўжо буду лыжачкаю есці.



Kamunikat.org

## ЗУСІМ ДРУГАЯ СПРАВА

Стрэўшы сына каля аўтамата,
Што цукеркі прадае за дробязь,
Абурыўся і ўзлаваўся тата:
— Марнатраўцы толькі гэтак робяць!
Колькі гаварыць мне, недаверак,
Што псуюцца зубы ад цукерак?
І сказаў сынок у апраўданне:
— Тата, гэты аўтамат-разява
За фальшывы грывеннік прадаў мне...
— А-а, тады зусім другая справа!

Kamunikat.org

## ПЫТАННЕ Ў АДКАЗ

Бацька ушчувае вучня-сына:
— Знаеш, адчаго ссівеў я так?
Што сваруся на цябе няспынна
За ляноту за тваю, лайдак!

Сын унурыўся, зірнуў спадлоб'я
І спытаў, не ўзняўшы галавы:
— Калі гэта праз мяне — дык добра:
Адчаго тады мой дзед сівы?



Kamunikat.org

## САМ ВЕДАЕ

Хлапец вядзе за горадам машыну:
Адной рукой трымаецца за руль,
Другою цісне да сябе дзяўчыну.
А тут — дарожны кантралёр-патруль!
Дагнаў на матацыкле, параўняўся:
— У дзве рукі, у дзве рукі, юнак!
— Што лепш у дзве — я сам пераканаўся,
Ды не магу ж я руль пакінуць так!



Kamunikat.org

## У ЗУБНОГА ЎРАЧА

— Трэба вырваць зуб ваш кутні,—
Пацыенту ўрач сказаў.
Затрымцеў, збялеў пакутнік,
Ледзьве з крэсла ён не ўпаў.
Доктар, бачачы такое,
Спірту чарачку нясе.
Лыкнуў той для супакою —
Усё роўна страх трасе.
Доктар зноў яму адмераў,
Потым трэцюю падаў.
— Ну, я думаю, цяпер вы
Пасмялелі? — запытаў.
— Яшчэ як! — усклікнуў хворы
І сярдзіта бровы звёў:
— Хай цяпер мне хто-каторы
Дакранецца да зубоў!



Kamunikat.org

## «СЯСТРА»

Дзяўчына ў бальніцы
Нікога не знала
І ў белым халаце
Жанчыну спаткала.

— Прабачце, учора
Прывезлі ў гарачцы
Дразда Мікалая —
Ці можна пабачыць?

Зірнула жанчына:
— А хто вы такая,
Што просіце стрэчы?
— Сястра Мікалая!

Руку працягнула
Жанчына ў халаце:
— То будзем знаёмы:
А я — яго маці!



kamunikat.org

## ТАПЕЛЕЦ І РЫБАК

Рыбак тапельца ўратаваў з вады.
— О, дайце я вам пацалую рукі!
Я ваш даўжнік давеку, назаўжды!
І дзеці будуць помніць вас, і ўнукі...
— Ну, добра, добра,— адмахнуўся той,
Пустое ўсё гэта і недарэчы.
Скажы мне лепш: як быў ты пад вадой
Ці хоць якая рыба ёсць у рэчцы?

## «НАВУКОВАЯ» СПРЭЧКА

У застоллі, пры поўнай пасудзе,
Двое тэму для спрэчкі знайшлі:
— Нізашто не паверу, каб людзі
Ды ад малпаў касматых пайшлі!

— Ну, а мне, калі рэзаць папраўдзе,
Важна тое, што я — чалавек!
А што, кажуць, быў малпаю прадзед
То не клопат маёй галаве!

— Можа, вам і ўсё роўна, прабачце,
І абраза душу не грызе.
Але як было вашай прабабцы
Жыць з гарылам або шымпанзэ?!

kamunikat.org

**БУДЗЬ СПАКОЙНЫ!**

Спытаўся Янка ў Саўкі асцярожна:
— Скажы, табе сакрэт даверыць можна?
— Ну, дарагі! Мне крыўдна, што пытаеш:
Як быццам першы дзень мяне ты знаеш!
— Дык вось, адкрыюся табе начыста:
Мне вельмі грошы трэба — рублёў трыста.
— О, будзь спакойны з-за свайго сакрэту.
Лічы, што ты і не казаў мне гэта!

kamunikat.org

## НА САБАЧЫМ РЫНКУ

Нейкі пан пытае ў мужыка:
— Колькі хочаш ты за шчанюка?
— Трыста злотых — толькі і ўсяго.
— У-у, цана бязбожна завялікая!
Да таго ж — ён левым вокам лыпае!
Ён з заганай? Што гэта ў яго?
— То ж ён знак мне робіць, проша пана,
Каб не прадаваў я гэтак танна.

## ВЫГАДА ПАЛІГЛОТА

Каля нары мышынай кошка
Уселася ў чаканні ўдачы.
Папільнавала гэтак трошку
Дый забрахала па-сабачы.
А мыш падумала, пачуўшы:
«Дзе ёсць сабака — кот ні блізка!»
І з норкі выскачыла тут жа.
І дачакала ўдачы кіска!
Пахрубастала з асалодай
І пір закончыла высновай:
«Як добра ўсё-такі валодаць
Хаця б адной замежнай мовай!»

kamunikat.org

## ДЗВЕ ВАРОНЫ

Глядзелі з дрэва дзве вароны
На рэактыўны самалёт.
— Ты бачыш? Вецер не дагоніць!
Вось гэта птушка! Ну і лёт!
— А што ты дзівішся, суседка?
За ёй вунь дым на паўнябёс!
Ты паляціш яшчэ не гэтак,
Калі табе падпаляць хвост!



Kamunikat.org

## У СУДЗЕ

— Скажыце, суд павінен гэта знаць:
Ці ўсе ўжо выкарысталі вы сродкі,
Каб мужа вашага — а ён жа муж усё-ткі! —
У шчырасці сваёй пераканаць?
— Усе дачыста, што ў кватэры мела:
Больш ні адной няма талеркі цэлай!

## НІЧОГА СТРАШНАГА

— Мой муж ужо на новым месцы,
І знаеш, што за службу мае?
Шэсць дзён на тыдні — у ад'ездзе
І толькі дзень са мной бывае.
— О, я памерла б ад нудоты —
Сядзець і чахнуць, як банкрутка.
— Нічога страшнага! Ну, што ты!
Адзін жа дзень мінае хутка!

kamunikat.org

**ДЫМ — НЕ БЯДА**

— Дык значыць, вы развод рашылі ўзяць
Па той прычыне, што цярпець не можаце,
Як жонка ў ложку курыць, лёгшы спаць?
З-за дыму да такой дайшло варожасці?
— О, добры суд, не ў тым яе віна.
Я дым сцярпеў бы! Што ад дыму станецца?
Ды замест попельніцы кожны раз яна
Маім няшчасным вухам карыстаецца!



Kamunikat.org

## ТРЫУМФ ДЗЕДА

Саўка род свой узносіць узяўся:
— Храбрасць — гэта наш знак радавы.
Дзед, напрыклад, аднойчы забраўся
У вагон, дзе сядзелі ільвы!
Нехта выгукнуў здзіўлена: — Ух!
Уяўляю, які быў трыумф,
Як ён вылез! Як дух яго вырас!
— А хіба я сказаў, што ён вылез?

kamunikat.org

## ЗМЕСТ

**Родны бераг**





Kamunikat.org

**Славенскія дзівосы**



**На жаль, не абы-дзе,**
**а ў нашай грамадзе**



**Вясёлае люстэрка**

kamunikat.org

*Гилевич Нил Семенович*

В ДОБРОМ СОГЛАСИИ

Лирика. Юмор. Сатира

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак М. М. Шостак. Мастацкія рэдактары А. І. Труханава, А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Панкова. Карэктары Л. М. Вайцяшэня, Л. І. Калюжная.

**ІБ № 354 .**

Здадзена У набор 26.10.78. Падп. да друку 14.03.79. АТ 01078. Фармат $75x90^{1}/_{32}$ Папера машыннамелаваная. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Ум. друк. арк. 5,62. ул.-выд. арк. 3,91. Тыраж 7000 экз. Зак. 1646. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта ьсЛЛ па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. —uu >, Мінск. Чырвоная, 23.

kamunikat.org

Гілевіч Н

У добрай згодзе: Лірыка, гумар, сатыра.— Мн., Маст. літ., 1979.— 144 с., іл.

У новай кнізе вядомага паэта Ніла Гілевіча аб'яднаны творы лірычныя, гумарыстычныя і сатырычныя. Памяць вайны, шматграннае, духоўна напружанае жыццё сучасніка, дружба народаў-братоў — асноўныя тэмы двух першых раздзелаў. У трэцім і чацвёртым раздзелах гучаць інтанацыі з'едліва-іранічныя і дабрадушна-вясёлыя, разлічаныя на аматараў вострага і дасціпнага слова.

Бел 2

kamunikat.org